Газета для вас

9 — 15 лютага 2001 г.

№ 6 (269)

Грамадска-палітычны штотыднёвік,

выдаецца са студзеня 1997 года

Падпісныя індэксы:
63834 (індывідуальная)
64145 (ведамасная)

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН



# В. КУДИНОВ — НА СВОБОДЕ

Итак, первый учредитель нашей газеты, крупный предприниматель, хозяйственник, финансист, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Владимир Алексеевич Кудинов — на свободе. Напомним нашим читателям (многие ведь знают Владимира Алексеевича не понаслышке), что он был арестован 4 февраля 1997 года и осужден судом Борисовского района Минской области под председательством судьи Виктора Шелепеня за "покушение дачи взятки неоднократно" к 7 годам лишения свободы, четыре из которых и провел в тюрьме г. Минска на ул. Кальварийской (дважды был амнистирован).

Здесь же, 5 февраля, уже за воротами тюрьмы его встречали жена, дочери, родные, друзья и многочисленные репортеры столичных газет и журналов. Тюрьма, как известно, не укрепляет здоровье человека, но встречающие смогли убедиться, что Владимир Кудинов покинул ее не сломленным духом.

Несмотря на то, что его фирма "Ивацевичи" разгромлена, имущество (офис, подсобное хозяйство) конфисковано, жизнь продолжается. В нашу редакцию звонят люди и спрашивают: чем намерен заняться Кудинов? Они хотят с ним сотрудничать, работать. Они верят ему. Они дождались его...

**Лидия ЦЕЛУЙКО.**



Фото IREX/ProMedia.

## Ці адродзіцца слава мэбельшчыкаў?

**КОСАВА.** Яшчэ дзесяць гадоў таму прадукцыя косаўскіх мэбельшчыкаў славілася далёка за межамі нашай рэспублікі. Апошнія пяць-шэсць гадоў вытворчасць мэблі не толькі пайшла на спад, але і згубіла сваю канкурэнтаздольнасць. Чаму ж так здарылася?

Тут некалькі прычын. Першая і, відаць, асноўная заключаецца ў тым, што зношанасць асноўных вытворчых фондаў складае 43 працэнты, у тым ліку абсталявання — 85 працэнтаў.

Другой і не менш важнай прычынай стала тое, што 66 працэнтаў выпускаемай прадукцыі рэалізуецца па бартэры (сыравіннай базы няма).

Рабочыя-мэбельшчыкі працуюць няпоўны тыдзень і зарабляюць у сярэднім у месяц 21 тысячу рублёў. Заробак, якога нават на хлеб і малако не хапае.

Які ж выхад з такога цяжкага становішча?

Спецыялісты лічаць, што патрэбна хутчэйшае тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці, пакуль яна наогул не спынілася. Для гэтага неабходны вялікія сродкі, а іх у прадпрыемства зараз няма. Патрэбны доўгатэрміновыя крэдыты, лепш за ўсё беспрацэнтныя. А хто іх дасць, пакуль што невядома. Таму, як хутка адродзіцца былая слава косаўскіх мэбельшчыкаў, ніхто не можа сказаць.

**Мікалай ДЗМІТРУК.**

## Льётся музыка

**ПРУЖАНЫ.** При большом стечении публики в Пружанском ГДК прошел областной фестиваль эстрадно-джазовых коллективов.

Участие в нем приняли коллективы из Баранович, Столина, Бреста, Дрогичина и, разумеется, Пружан. Хозяева выступили довольно профессионально, и их оркестр эстрадной музыки Пружанского ГДК (рук. Ю. Козей) стал одним из лауреатов. Вторым — "Фрагмент-бэнд" — оркестр из г. Барановичи (рук. Р. Михнович).

**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**

## Из емкости в емкость бензинчик потек

**БАРАНОВИЧИ.** И это стало весьма печальным событием для межрайонного объединения по материально-техническому обеспечению агропромышленного комплекса. Неизвестный преступник проник на территорию предприятия и слил 336 литров 92-го бензина. Подозреваемый в розыске.

**Алина КОЛОСОВСКАЯ.**

## Рэальная "стабілізацыя"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** На фоне стабілізацыі беларускай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, пра якія штодзённа гавораць і пішуць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, вельмі блякла выглядае прамысловасць раёна. Так, летась колькасць стратных прадпрыемстваў дасягнула 18 (у 1999 годзе іх было тры).

Яшчэ адна лічба. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці ўзрасла на 6,3 працэнта. Здавалася б, гэта прагрэс. Аднак такі рост дасягнуты не за кошт павелічэння аб'ёмаў вытворчасці, новай тэхналогіі ці павышэння якасці выпускаемай прадукцыі, а галоўным чынам за кошт змяншэння колькасці працуючых.

Такая рэальная "стабілізацыя" ў адным узятым раёне. Сумна і бесперспектыўна.

**Кастусь ДЗЯМЧУК.**

## Шасцітысячніцы не перавяліся

**ДРАГІЧЫН.** Чытаеш зводкі і здзіўляемся таму, што ў раёне ёсць апараты машыннага даення кароў, якія летась пераўзыйшлі шасцітысячны рубеж. Значыць, і сёння, можна працаваць эфектыўна. Гаворка ідзе пра саўгас "Закашельскі". Тут у мінулым годзе надоена ад кожнай каровы па 4467 кілаграмаў малака. А ў даярак Жук Н. А., Тарасевіч В. В., Шостак Л. А., Клімашэвіч Л. М. і Шостак С. Я. надой склаў па 6160 кілаграмаў. Хаця ў параўнанні з 1999 годам гэта на 293 кілаграмы менш, аднак лічбы гавораць самі за сябе. І, канешне, аб людзях-працаўніках.

**Наталля АЛЕКСІЕВІЧ.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Умер Александр Дубко

**4 февраля, около 23 часов, на 64-м году жизни умер член Совета Республики Национального собрания Беларуси 2-го созыва, председатель Гродненского облисполкома Александр Дубко. По неофициальной информации, причиной смерти стал сердечный приступ.**

Александр Дубко руководил Гродненским облисполкомом с 1996 года. До этого он возглавлял колхоз "Прогресс" Гродненского района, который считался передовым хозяйством.

В похоронах А. Дубко принял участие президент РБ А. Лукашенко.

## Счет за "воровство"

**Российская телекомпания НТВ намерена выставить Министерству связи Беларуси счет за "воровство рекламного времени Белорусским телевидением, которое началось с 3 февраля 2001 года". Об этом сообщил БелаПАН Святослав Топеха, генеральный директор ООО "Медиа Сервис Арт" - структурного подразделения холдинга "Медиа-Мост", являющегося рекламным агентом НТВ на территории Беларуси.**

По информации Топехи, 2 февраля в Администрации президента Беларуси состоялось совещание, на котором "с подачи первого заместителя председателя Национальной телерадиокомпании Беларуси Егора Рыбакова" было принято решение о перекрытии рекламного блока НТВ Белорусским телевидением. Это произошло несмотря на официальное предупреждение, которое 25 января направил генеральный директор НТВ Евгений Киселев в адрес руководства Национальной государственной телерадиокомпании Беларуси.

## Январские итоги

**Более 150 тысяч долларов США, 100 тысяч немецких марок, 180 тысяч российских рублей, а также другую валюту на общую сумму 252 миллиона рублей изъяли белорусские таможенники у нарушителей в январе.**

Такие данные БелаПАН сообщили в пресс-центре Государственного таможенного комитета Беларуси.

По итогам прошлого месяца, таможенники также изъяли 67 единиц автотранспорта на сумму 1 миллиард 155 миллионов рублей; 943 тысячи штук сигарет на общую сумму 34,5 миллиона рублей; 18 тысяч литров алкогольной продукции на сумму 14,5 миллиона рублей. Сотрудники таможенных органов пресекли несколько попыток вывоза икон XIX века на сумму 1,5 миллиона рублей; 306 ювелирных изделий на сумму 4,7 миллиона рублей; 152 килограмма лома и слитков цветных (алюминий, медь, латунь) на общую сумму свыше 36 миллионов рублей.

## Комитет готовится

**Представители Белорусского славянского комитета готовятся принять участие в 8-ом Всемирном славянском съезде.**

Предполагается, что он пройдет 2-3 апреля в Москве. Об этом БелаПАН сообщил председатель Белорусского славянского комитета (БСК), депутат Палаты представителей Национального собрания Сергей Костян.

По его словам, первоначально планировалось провести это мероприятие в Минске. Однако, сказал председатель БСК, для того, чтобы не сложилось впечатление, что съезд проводится "под Лукашенко" и приурочен к его избирательной кампании, оргкомитет принял решение перенести славянский форум в столицу России.

## Суд состоялся

**В Бресте осуждены участники организованной преступной группы, занимавшейся кражей автомобилей.**

Суд Ленинского района Бреста под председательством судьи Юрия Веренича 5 февраля вынес приговор группе жителей областного центра, которые в составе преступной группы угоняли и продавали автомобили.

Пять участников банды получили разные сроки наказания - от 8 лет с конфискацией имущества до 3 лет условно. Кроме того, им предстоит выплатить материальный ущерб, нанесенный пострадавшим.

Доказаны несколько случаев краж в Бресте и Ивацевичах. Это первый случай в истории брестского правосудия, когда удалось доказать, что преступники действовали в составе организованной группы.

**(БелаПАН).**

# ВЯРТАННЕ Т. КАСЦЮШКІ

### Павагу славутаму земляку выказалі ўлады, работнікі замежных пасольстваў, шматлікія госці

**4 лютага 2001 года споўнілася 255 гадоў з дня нараджэння нашага слыннага земляка Андрэя Тадэвуша Банавентура Касцюшкі, Ганаровага грамадзяніна Францыі, нацыянальнага героя Польшчы і ЗША. У гэты пранізліва-халодны дзень на Косаўшчыне прайшлі ўрачыстасці.**



Усё пачалося з набажэнства, якое адбылося ў Косаўскім парафіяльным касцёле, дзе, як сведчаць дакументы, калісьці і хрысцілі Тадэвуша Касцюшку. Пасля шматлікія ўдзельнікі і госці рушылі ва ўрочышча Марачоўшчына да вялікага камня, дзе калісьці знаходзіўся дом Касцюшкаў. Перад прысутнымі выступіў старшыня Івацэвіцкага райвыканкама Аляксандр Няхаеў, пасля чаго госці, сярод якіх былі пасол Польшчы ў РБ Мар'юш Машкевіч, генеральны консул РП у Брэсце Томаш Клеманскі, ваенны аташэ РП, намеснік пасла ЗША і іншыя, ўсклалі кветкі да помніка.

Далей праграма святкавання набыла імправізаваны характар. Большасць удзельнікаў рашыла, што найлепш за ўсё было б правесці час ля Косаўскага замка, дзе перад прысутнымі выступілі Сямен Домаш, адзін з магчымых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта на выбарах, якія адбудуцца восенню, Віктар Шалкевіч, вядомы беларускі бард.

**Аляксандр ГОРБАЧ (фота аўтара).**

## Сумны фінал

### атрымаўся для злодзеяў у вёсцы Юрчыкі

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Вёска, як звычайна, прачынаецца рана. Устала на досвітку і Аляксандра Мацвееўна Бабей, каб хутчэй дагледзець хатнюю жывёлу. Як-ніяк зіма, пахаладала. Перш чым ісці ў хлеў, вырашыла заглянуць ў летнюю кухню. Дзверы туды чамусьці аказаліся адчыненымі. Зазірнула ўнутр і рукамі ўспляснула — усё забрана: сем мяхоў абойнай ячменнай мукі, 5 — ячменю, адзін мяшок мукі вышэйшага гатунку і каністра 20-літровая з бензінам.

Паплакала гаспадыня і патэлефанавала ў міліцыю і расказала пра сваю біду. Адгукнуліся на гэта адразу. У Юрчыкі, дзе жыве Бабей, выехала аператыўная група. Тры дні спатрэбілася міліцыі, каб адшукаць начных злодзеяў.

І злодзеі прызналіся. Частку ўкрадзенага яны прадалі, а частку абмянялі на спіртное. Імі аказаліся жыхар Л. з Бялавіч і сусед пацярпеўшай, дарэчы, яшчэ і яе родзіч. Абодва яшчэ маладыя людзі да 30 гадоў, якія нідзе не працуюць.

Страты, нанесеныя А. М. Бабей, жыхарцы вёскі Юрчыкі, пакрыты. Па факце крадзяжу ўзбуджана крымінальная справа.

**Дзмітрый РЫГОРАЎ.**

## Яшчэ некалькі такіх пастаноў урада,

### і зарплата ў 100 долараў нам гарантавана

Разгневаны жыхар г. Косава, які назваў сябе Аляксеем, патэлефанаваў 1 лютага ў "Газету для вас".

**— Чаму амаль усе магазіны ў Івацэвічах сёння закрыты? — з абурэннем гаварыў ён. — Я прыехаў па каляровае шкло ў магазін "Гаспадарчыя тавары", што па вуліцы Клютко, наняў вадзіцеля, каб адвёз мікрааўтобусам гэтае шкло. А тут — замок. Адкуль я мог ведаць, што ў самы звычайны дзень магазін можа быць закрыты?**

Сапраўды, большая частка магазінаў Івацэвіцкага гарадскога спажывецкага таварыства — харчовыя, прамысловыя, нават кніжны — 1 лютага не працавалі. У чым жа справа? Вось што адказала адна з супрацоўніц гэтага таварыства, якая папрасіла не называць сябе.

— У нас ёсць пастанова Савета Міністраў, паводле якой на значную групу тавараў уводзіцца з 1 лютага 5-працэнтнае павышэнне цэн. Ёсць указанне — правесці суцэльныя рэвізіі. Таму прадаўцы, тавараснаўцы ледзь не цэлую ноч працавалі, перапісваючы цэннікі. Там, дзе магазін невялікі, паспелі зрабіць, дзе больш — прабачце. Зразумейце, што нам зусім нявыгадна спыніць работу магазінаў, за адзін спынены дзень мы недаатрымаем да 10 мільёнаў рублёў... Бо трэба ж дзесьці браць грошы, каб зрабіць абяцаную зарплату ў 100 долараў...

**Падрыхтаваў Аляксандр МІХАЛЕНКА.**

## Я сниму порчу,

### а ты — золотишко

Примерно так распределили роли предприимчивые женщины, встретившие на улице молоденькую девушку и заявившие, что она нуждается в снятии порчи. Процедура обошлась девушке в 10 долларов, 2 золотые цепочки, серьги и печатку.

Другой преступник не собирался снимать порчу со своей жертвы, снял только сережки и обручальное кольцо, за одно прихватил и сумочку. Это случилось хоть и поздним вечером, но в самом центре города. Парень в черной кожаной куртке угрожал девушке предметом, похожим на пистолет.

**Алина КОЛОСОВСКАЯ. г. Барановичи.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 7.02.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500 | 2500—3800 | 2500—3600 | 2500—3600 | 2200—2800 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2400 | 2500 | 2600 | 2400—3000 |
| Алей (1 л) | 750—1000 | 700—1100 | 750—950 | 800—1100 | 800—1200 |
| Яйкі | 1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 | 900—1000 |
| Малако (3 л) | 600 | 550 | 600 | 550 | 600—670 |
| Шпроты | 450 | 400—420 | 450 | 400 | 450—500 |
| Масла сметанк. | 1800—2000 | 1900 | 2000 | 2000 | 2000 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 100 | 90—110 |
| Цыбуля | 250 | 220 | 250 | 200 | 160—200 |
| Морква | 200 | 150—180 | 180 | 180 | 150—180 |
| Капуста | 100 | 150—180 | 80—200 | 100—120 | 70—80 |
| Грушы | — | 600—1000 | 1400 | 400 | — |
| Буракі | 60—80 | 100 | 60—80 | 80 | 70—80 |
| Мандарыны | 1900—2000 | 1500—1800 | 1800 | 1750 | 1500—1700 |
| Грэцкія арэхі | 1300 | 1300 | 1500 | 1200 | 1200—1300 |
| Яблыкі | 450—650 | 300—800 | 300—500 | 420 | 150—300 |
| Маянэз | 250—450 | 240—420 | 240—420 | 240—450 | 310—450 |
| Вінаград | 4000 | 3500 | 3800 | — | 1300—1600 |
| Хурма | 2500 | 2000—2300 | 2500 | — | 1700—1800 |
| Часнок | 800—1600 | 1800 | 1000 | 800 | 400—600 |
| Лімоны | 1400—1500 | 1300—1500 | 1500 | 1450 | 1100—1200 |
| Апельсіны | 1100—1200 | 1300 | 1200 | 1600 | 800—900 |
| Бананы | 900—1200 | 950—1200 | 1300 | 1450 | 1100—1200 |
| Гранаты | 1900 | 1900 | 1800 | 1600—1800 | 1800 |
| Грэчка | 550—660 | 650 | 550—600 | 700 | 450—600 |
| Макар. вырабы | 520—560 | 500—560 | 600 | 500—600 | 550—620 |
| Рыс | 480—540 | 500—520 | 550 | 550 | 490—510 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 500 | 460—500 |
| Проса | 320—350 | 330 | 360 | 300 | 340—360 |
| Цукар | 560 | 550 | 550 | 550 | 550—580 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 3.600 | 4.000 | 3.600—4.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1230 | 1240 | 1220 | 1300 | 1220 | 1250 | 1200 | 1250 | 1250 | 1300 |
| 1 дойчмарка | 550 | 560 | 560 | 580 | 560 | 590 | 530 | — | 570 | 620 |
| 1 рубель Расіі | 41 | 43 | 40 | 44 | 40 | 44 | 40 | 45 | 42 | 46 |

# ПЕНЯ ЗА КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ

## Адказвае юрыст ГА "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

**У грамадскую прыёмную праваабарончага цэнтра "Вясна" ў Бярозе звярнуўся жыхар вёскі Малеч М. Швед, які прасіў даць яму параду. Ён вымушаны выплачваць немалыя грошы за пеню, што набягае за нясвоечасовую аплату камунальных паслугаў, бо са спазненнем атрымлівае заработную плату (працуе ён на бярозаўскім камбінаце сілікатных вырабаў). Магчыма, адказ будзе карысным і некаму іншаму. Тым больш, што падыходзіць час прыняцця калектыўных дамоваў у працоўных калектывах.**

Тэрміны выплаты зарплаты ўстаноўлены артыкулам 73 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, у якім прадугледжана, што заработная плата выплачваецца рэгулярна ў дні, устаноўленыя калектыўнай дамовай, пагадненнем альбо працоўным дагаворам і не радзей, чым 2 разы ў месяц.

Артыкул 55 названага кодэкса ў ліку другіх абавязкаў ускладае на наймальніка і абавязак пры арганізацыі працы работніка выдаваць яму заработную плату ва ўстаноўленыя тэрміны. За невыкананне альбо неналежнае выкананне сваіх абавязкаў, у тым ліку і па выплаце заработнай платы, наймальнік нясе адказнасць, устаноўленую заканадаўствам.

Такім чынам, са сказанага вынікае, што ў першую чаргу пры заключэнні калектыўных дамоваў, пагадненняў ці працоўных дагавораў у іх у абавязковым парадку павінны быць указаныя дні (падкрэсліваю — дні) выплаты заработнай платы. Пры вызначэнні гэтых дзён неабходна кіравацца тэрмінамі разліцаў за камунальныя паслугі, каб работнікі маглі іх своечасова выплачваць.

Калі ж усе гэтыя умовы выкананы, аднак па віне наймальніка заработная плата своечасова не выплачаная, і работнік панёс страты, заплаціўшы пеню пры аплаце камунальных паслугаў, ён мае поўнае права пакрыць гэтыя страты за кошт наймальніка.

Аднак жыццё паказвае, што для гэтага вельмі часта работнікам не хапае аднаго — мужнасці.

**Аляксанндр ШАВЕЛЬ, юрыст.**
**г. Бяроза.**

# Хто вашы куміры?

## На што арыентуецца моладзь г. Драгічын?






**Марына:** У мяне кумiраў няма, у кожным чалавеку мне падабаецца штосьці сваё — і я выбіраю тое, што мяне цікавіць. Тое ж самае тычыцца вядомых эстрадных выканаўцаў — сярод іх я не бачу такіх, хто быў бы для мяне арыенцірам у жыцці.

З палітыкаў падабаецца Уладзімір Пуцін.

**Віталь:** Кумiраў у мяне шмат, асабліва сярод спартсменаў. Падабаюцца многія вядомыя футбалісты, сярод якіх найбольшую сімпатыю маю да іспанскага форварда Рауля. Некаторыя з беларускіх футбалістаў таксама выклікаюць павагу.

Палітыкай я не цікаўлюся.

**Аляксей, Таццяна:** А мы адзін у аднаго куміры (смяюцца). Нашы куміры — хлопцы, якія адзначылі сваё жыццё подзвігамі ў Афганістане ці Чачне. Любім, дарэчы, песні на падобную тэматыку.

Сярод палітыкаў больш за іншых падабаецца Біл Клінтан.

**Эдуард:** Мае куміры — сям'я і калегі па рабоце. Яшчэ падабаюцца расійскія палітыкі — Жырыноўскі, Пуцін. Жырыноўскі за тое, што ён адкрыты і арыгінальны, Пуцін — за інтэлігентнасць. Лукашэнка не падабаецца, бо занадта многа гаворыць.

**У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Святаслаў КАЖАДУБ (фота).**

# Колькі банкрутаў?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Нядаўна ў рэспубліканскай прэсе паявілася паведамленне аб тым, што кожны другі калгас у нашай Беларусі — банкрут. Дарэчы, з першага лютага уступіў у сілу прыняты закон аб банкрутстве. Як жа будзе прымяняцца гэты закон, пакажа час. Цяпер жа ні для кога не сакрэт, што высокія чыноўнікі яўна заніжаюць колькасць калгасаў-банкрутаў. Гэта няўзброеным вокам можна ўбачыць на прыкладзе "дзейнасці" гаспадарак Івацэвіцкага раёна.

Запазычанасць сельгаспрадпрыемстваў па стану на 1 студзеня 2001 года ў бюджэт па даходах складае 58498,6 тысячы рублёў, у тым ліку ў бюджэт раёна — 36666,2 тысячы рублёў. 15 калгасаў з 24 дапусцілі нядоімку.

1344933 тысячы рублёў — такі доўг за электраэнергію за мінулы год. Рост склаў 6,1 раза. 88 працэнтаў усёй запазычанасці прыходзіцца на долю калгасаў.

Да гэтага варта дадаць, што расце доўг калгаснікам па зарплаце. Як паведамляюць у рэдакцыю з месц, у большасці гаспадарак не выдалі толькі за кастрычнік. Дык колькі ў раёне калгасаў-банкрутаў?

**Сяргей СЛАВІНСКІ.**

# Урачыстасці ў школе

**ПРУЖАНЫ.** Напрыканцы 2000 года споўнілася 90 гадоў Зеляневіцкай сярэдняй школе Пружанскага раёна. Урачыстасці з нагоды юбілею, віншаванні школе і падзяка пакаленняў вучняў настаўнікам гучалі ад многіх выпускнікоў, і ад райвыканкама, РАА, калгаса "Зеляневічы". Школа атрымала каштоўныя падарункі. Цяпер мы маем магчымасць выхаду ў сусветную інфармацыйную прастору "Інтэрнэт" і даць вучням веды па сучасных камп'ютэрных тэхналогіях.

Наш калектыў выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дапамог школе ў арганізацыі ўрачыстасці.

**Мікалай ВОЛЧЫК.**

# Тэлефон даверу санслужбы

**ДРАГІЧЫН.** Такі тэлефон працуе і даволі эфектыўна. Напрыклад, за два апошнія месяцы мінулага года ў раённую санітарную службу паступіла 59 скаргаў і заяў. Усе яны звязаны з фактамі парушэння санітарных правілаў.

Жыхароў раёна трывожаць антысанітарыя на тэрыторыях, прылягаючых да некаторых шматкватэрных дамоў, несвоечасовы вываз смецця камунальнікамі, дрэнная якасць халоднай і гарачай водаправоднай вады, стан асобных могілак і туалетаў, парушэнні правілаў утрымання сабак і іншыя.

Апаратыўнае рэагаванне санітарнай службы раёна на паведамленні па тэлефоне даверу дапамагае хутчэй ухіляць недахопы, а гэта значыць змагацца за здаровы лад жыцця нашых грамадзян.

**Антон ХВЕДАРЧУК.**

# Смерть от острой кровопотери

**БАРАНОВИЧИ.** 23 января в своей квартире был найден мёртвым мужчина 1964 года рождения. Резаные раны предплечья и в области груди намекают на насильственную смерть. Ведётся следствие. Известно, что смерть наступила от кровопотери.

**Алина КОЛОСОВСКАЯ.**



# Готовь летом сани...

## Несколько слов о саженцах и семенах

**"Здравствуйте уважаемый коллектив редакции "Газеты для вас". Обращаюсь к вам с просьбой рассказать на страницах вашей газеты о Пружанском питомнике. Какие новые сорта садовых деревьев и кустарников они выращивают, продают ли отдельно частным лицам? Кроме деревьев и кустарников что ещё выращивают? Имеется ли у них семенной картофель и каких сортов? Где и в какое время можно приобрести (т. е. по какому адресу)? Лично меня интересует чёрная смородина, сорт "Память Н. И. Вавилова" и "Малышка", а также картофель "Орхидея", "Агрия", "Коретта". Я думаю, что многим читателям будет интересно узнать то, что можно приобрести у них по весне".**

**В. Н. ПОЛИЯНЧУК.**
**г. Белоозёрск.**

На вопрос нашего читателя отвечает директор Брестской областной сельскохозяйственной опытной станции, расположенной в г. Пружаны, **Тамара ЛУКУТЬ.**

— В плодопитомнике Брестской ГОСХОС выращиваются саженцы плодовых культур и реализируются для предприятий (колхозов, совхозов), а также для частных лиц по наличным и безналичным расчётам. Выращиваются саженцы яблони в широком ассортименте (в основном, районированные сорта), а также в зависимости от года бывают саженцы груши, сливы, алычи, абрикоса, вишни, черешни, чёрной смородины.

Станция реализует клоновые подвои яблони (карликовые, полукарликовые, среднерослые). В настоящее время для весенней реализации в 2001 году саженцев и подвоев не имеется. К осенней реализации будут представлены саженцы яблонь зимних сортов: "Антей", "Алеся", "Айдаред", "Ветеран", "Имрус", "Синап Орловский", "Зимнее плисецкое"; весенних сортов: "Лучезарное", "Орлик", "Слава победителям", "Ауксис"; летних сортов: "Коваленковское", "Белый налив".

Кроме того будут предложены саженцы груши: "Белорусская поздняя" и "Великая летняя"; вишни: "Норд стар" и "Облачинская"; саженцы черешни: "Красавица", "Сюбаровская"; смородины чёрной: "Оджебин".

Из семян картофеля к весенней реализации предлагаются:
— ранние сорта: "Дельфин", "Лазурит";
— среднеранние сорта: "Сантэ", "Явар", "Орхидея";
— среднеспелые сорта: "Ласунок", "Ветразь", "Гарант";
— поздние сорта: "Сузорье", "Атлант".

**НАШ АДРЕС:** г. Пружаны, ул. Урбановича, 5. Телефон: 7-12-71.

**Подготовил Александр ГОРБАЧ.**

# Госпожа удача

## свой выбор сделала

**Около трёх недель прошло с той поры, как в Брестской области прошла денежно-вещевая лотерея "Берестье-2". Нашим читателям, думается, будет интересно узнать то, "любят" ли вещевые и денежные призы жителей нашего региона.**

Крупные — не любят. Как известно, среди призов значились две квартиры (двухкомнатные), два автомобиля (ВАЗ-2107). Квартиры достались счастливчикам из Бреста, Лунинца, машины — из Бреста и Малориты.

А вот призы помельче есть.

250000 рублей выиграла жительница г. Ивацевичи, 100000 рублей — житель Ивацевичского района (д. Подстаринь). На Берёзовщине, как сообщает комиссия, есть выигрыши в виде пылесоса "Philips", 50000 рублей. Житель Белоозёрска выиграл газовую плиту.

Газовую плиту, 250000 рублей, два ковровых комплекта и несколько радиоприёмников выиграли участники из Баранович и района.

Как сообщили нам члены комиссии лотереи "Берестье-2", ни с Пружан, ни с Дрогичина обращений за призами не было.

**Александр ГОРБАЧ.**




(Працяг. Пачатак у №№ 2, 3, 4,5).

## IV. “ЖАДАЮ СВАБОДЫ ДЛЯ ЎСЯГО НАРОДА...”

**10.**

Аб'яднаныя руска-прускія войскі развівалі наступленне, маючы намер як мага хутчэй задушыць паўстанне. Так, у пачатку чэрвеня гэтая групоўка (24 тысячы чалавек) у бітве каля мястэчка Шчакаціны прымусіла армію Касцюшкі адступіць. Дарэчы, у паўстанцаў тады было ў два разы менш жывой сілы. Ужо 15 чэрвеня прускія войскі занялі Кракаў, а Касцюшка адступіў да Варшавы.

У сярэдзіне ліпеня прускія войскі падышлі да Варшавы. Неўзабаве быў тут і рускі корпус пад камандаваннем генерала Ферзена. Гераізм абаронцаў Варшавы і ўмелыя дзеянні Касцюшкі ў жніўні—верасні прымусілі гэтыя войскі адысці ад Варшавы. Аднак становішча паўстанцаў пагоршылася. Справа ў тым, што Аўстрыя, як Расія і Прусія, таксама не драмала і вырашыла пашырыць тэрыторыю сваёй акупацыі і нанесла ўдар па паўстанцах з поўдня.

Каб прыцягнуць на свой бок дадатковыя сілы, у верасні Касцюшка зрабіў паездку на Беларусь. Тут ужо дзейнічала некалькі атрадаў, якія актыўна падтрымлівалі паўстанцаў.

Незадаволеная марудным ходам удушэння паўстання, Кацярына II аддала загад перакінуць з турэцкага фронту рускі корпус пад камандаваннем А. Суворава, які неўзабаве ўступіў на тэрыторыю Заходняй Беларусі. У крытычным стане аказалася дывізія паўстанцаў на чале з генералам Ю. Серакоўскім.

З паўднёвага захаду наступаў корпус Ферзена. Супраць яго выступіў Серакоўскі са сваёй дывізіяй і частка рэзерву. На дапамогу чакалі дывізію пад камандаваннем генерала Папінскага, аднак ён не выканаў загаду Касцюшкі.

**11.**

Паўстанне было яшчэ адметна тым, што ў ім выкарыстоўваліся элементы партызанскай барацьбы. Так, Міхаіл Клеафас Агінскі (сёння больш вядомы як кампазітар) на чале атрада 12—16 чэрвеня зрабіў смелы рэйд на Міншчыну. Мэта была адна — падняць сялянства на паўстанне. Гэта з'явілася нечаканасцю для расійскіх войскаў.

15 чэрвеня Агінскі ў Івянцы абвясціў зварот да грамадзян Менскага ваяводства з заклікам да паўстання. Пад Вішневам яго атрад быў разбіты і частка яго адступіла да Вільні. Хаця рэйд Агінскага закончыўся няўдачай, але ён на паўмесяца затрымаў наступленне расійскага войска.

Прыкладу Агінскага паследаваў палкоўнік войска літоўскага Стэфан Грабоўскі, удзельнік паўстання ў Вільні. У другой палове жніўня 1794 года са сваім трохтысячным атрадам ён накіраваўся ва Усходнюю Беларусь, каб і тут узняць сялянства на барацьбу за свабоду. 4 верасня каля мястэчка Любань атрад Грабоўскага быў разбіты рускай арміяй, а сам ён трапіў у палон.

Генерал Я. Ясінскі таксама прадпрыняў тактычны манеўр. 26 чэрвеня на чале сваёй дывізіі ў чатыры тысячы чалавек у бітве пад Соламі (каля Смаргоні) не даў магчымасці камандуючаму рускіх войск Л. Бенігсену разбіць сваё войска і адступіў да Вільні, пры гэтым захаваў асноўныя сілы. Аднак рускія ўспрынялі гэта як перамогу, і царыца Кацярына II нават надала свайму камандуючаму званне генерал-маёра. Так заахвочвалася задушэнне іншых народаў.

**12.**

Прыбыўшы на Беларусь, рускі корпус пад камандаваннем А. Суворава (12 тысяч чалавек і 39 гармат) адразу ўступіў у бой. 14 верасня адбылася сутычка з паўстанцамі пад мястэчкам Дзівін (цяпер Кобрынскі раён). 15 верасня адбыўся бой Кобрынскай павятовай міліцыі Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам генерал-маёра К. Рушчыца з "сувораўцамі".

17 верасня паўстанцкі корпус К. Серакоўскага (каля 5 тысяч чалавек і 26 гармат) пад Крупчыцамі (Кобрынскі раён) змагаўся з корпусам Суворава (звыш 10 тысяч чалавек). Паўстанцы вымушаны былі адступіць.

19 верасня пад Брэстам войска Суворава нанесла магутны ўдар па корпусу К. Серакоўскага. Паўстанцы былі разбіты.

Касцюшка прадпрымаў усялякія меры, каб папоўніць атрады паўстанцаў. Дзеля гэтага 29 верасня ён прыбыў у Гародню. Тут, у каралеўскім замку, Касцюшка правёў нараду з вышэйшымі камандзірамі. У ёй удзельнічалі Тамаш Ваўжэцкі, Якуб Ясінскі, Юрый Грабоўскі, Станіслаў Макраноўскі.

З вялікімі намаганнямі было сабрана новае войска, аднак лёс паўстання быў прадвырашаны. Войска расійскага генерал-паручніка І. Ферзена перайшло Віслу каля Мацяевіцаў і накіравалася на злучэнне з корпусам Суворава.

Тадэвуш Касцюшка яшчэ спадзяваўся на поспех. Ён вырашыў спачатку разбіць войскі Ферзена, а потым — Суворава. Аднак пад націскам расійскіх войскаў рэшткі войска Вялікага княства Літоўскага адступілі на тэрыторыю Польшчы.

**13.**

10 кастрычніка каля Мацяевіцаў, на правым беразе Віслы, адбылася вялікая бітва паміж польскім войскам Тадэвуша Касцюшкі (каля 7500 чалавек і 23 гарматы) і рускім корпусам (14 тысяч чалавек і 56 гармат). Бой цягнуўся амаль увесь дзень. Касцюшка быў тут жа. Бачачы, што яго войска церпіць няўдачу, сам Кіраўнік ездзіў па полі бою сярод параненых і палеглых.



*Тадэвуш Касцюшка ў паўстанскім уборы.*



*Міхаіл Клеафас Агінскі — удзельнік паўстання.*

Касцюшкаў конь, падсечаны куляй, зваліўся на зямлю, а сам наезнік вылецеў з сядла. Не жадаючы ганьбы палону, Касцюшка ўставіў дула пісталета ў рот і націснуў на курок. На бяду ці на дабро, як кажуць, здарылася асечка. Набеглі казакі. Адзін з іх стрэліў, другі проста з каня ўдарыў Касцюшку пікай.

Гусарскі карнет Фёдар Лысенка, які падскочыў сюды, яшчэ ў запале бою ўдарыў бяззбройнага ляжачага паўстанца палашом па галаве і пашкодзіў чэрап. Касцюшка згубіў прытомнасць.

Казакі знялі з Касцюшкі боты, выцягнулі з кішэні залаты гадзіннік, з пальцаў сцягнулі некалькі пярсцёнкаў з надпісам "Айчына — абаронцу сваёму", якім Кіраўнік паўстання ўзнагароджваў замест медалёў сваіх падначаленых.

Так атрымалася, што побач з Касцюшкам ляжаў польскі драгун, які прыкінуўся забітым. Бачачы, як рабуюць Кіраўніка, як кроў заліла ягоны твар, ён не стрымаўся і пачаў крычаць: "Начальніка забілі! Касцюшку!"

Пачуўшы гэты крык, казакі збянтэжыліся. Кожны з іх чуў пра Касцюшку. Каб прывесці да прытомнасці акрываўленага чалавека, яго аблілі вадой, крычалі ў вуха. Калі ж ён апрытомнеў, хтосьці спытаў: "Ты — Касцюшка?" У адказ пачуўся шэпт: "Так. Вады?"

Захоп у палон кіраўніка паўстання шмат што абяцала казакам. Яны панесліся дакладваць свайму начальству. Неўзабаве паявіліся афіцэры, знайшлі падводу і Касцюшку паклалі на голыя дошкі. Яго параненая галава білася аб дошкі на няроўным полі. Хтосьці з казакаў сказаў: "Хоць ён і вораг, але ўсё ж чалавек". З шынялёў, надзетых на пікі, атрымаліся добрыя насілкі. На іх і панеслі палоннага да сваіх генералаў.

**14.**

Вестка аб тым, што паранены Касцюшка трапіў у палон, хутка абляцела Польшу, Беларусь, Літву. Вышэйшая рада паўстання прызначыла новым кіраўніком Тамаша Ваўжэцкага. Але зыход барацьбы народаў Польшчы, Беларусі і Літвы быў ужо вядомы. Паўстанне задушылі з дапамогай Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Яны ж у выніку "перамогі" і атрымалі па кавалку ад агульнага "пірага". Адбыўся так званы трэці падзел Рэчы Паспалітай. Да Аўстрыі адышлі паўднёвая і цэнтральная Польшча з гарадамі Кракавам, Сандамірам, Люблінам і Холмам; да Прусіі — частка цэнтральнай і паўночнай Польшчы з гарадамі Варшава, Ламжа і частка заходняй Літвы; да Расіі — Заходняя Беларусь, Літва, Курляндыя, частка Валыні.

А тым часам Касцюшка і яго паплечнікі знаходзіліся ў палоне. Кіраўніка паўстання пад моцнай вартай і вакольнымі шляхамі перавезлі ў Пецярбург і змясцілі ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Тут Касцюшку лячылі, тут ішлі і допыты.

Неадназова ў турме і пасля яе Касцюшка задаваў сабе пытанні: "Што ж здарылася? Чаму ж паўстанне пацярпела паражэнне?"

"Жадаю свабоды для ўсяго народа," — яшчэ напярэдадні ўсенароднага выступлення казаў Тадэвуш Касцюшка. І гэтая свабода была так блізка. Але планы і намеры Касцюшкі так і не здзейсніліся. Аб асноўнай прычыне паражэння паўстання — прамой агрэсіі сквапных суседзяў супраць касцюшкаўцаў — было ўжо сказана, а вось аб унутраных — наступнае слова.

**15.**

Гісторыкі і даследчыкі розных гадоў і пакаленняў па-свойму ацэньвалі паўстанне 1794 года, дзейнасць яго кіраўніка Тадэвуша Касцюшкі, асабліва на яго радзіме.

Вядома, што на тэрыторыі Беларусі паўстанне закончылася ў верасні 1794 года. Тут расійская акупацыйная адміністрацыя наводзіла свой парадак. Ставілася задача вытравіць з памяці народа само імя правадыра паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Пад пагрозай суровага пакарання забаранялася ўпамінаць у афіцыйных паперах начальніка паўстання, уводзілася жорсткая цэнзура. Вялікі быў аўтарытэт народнага правадыра.

Мэты, якія паставілі перад сабой паўстанцы і іх правадыр, сведчылі аб тым, што гэтае ўзброенае паўстанне мела для свайго часу рэвалюцыйны характар. **Не выпадкова, лозунгам паўстання сталі такія словы, як воля, цэласць, незалежнасць, а ў самой Беларусі — воля, роўнасць, незалежнасць.** А гэта ў сваю чаргу азначала выгнанне з Польшчы і Вялікага княства Літоўскага прускіх, аўстрыйскіх і рускіх акупацыйных войскаў, вяртанне страчаных тэрыторый у выніку грабежніцкіх падзелаў 1772 і 1793 гадоў. **Таму, як лічаць гісторыкі, паўстанне 1794 года з'яўлялася вызваленчым не толькі для ўсіх народаў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, але і для іх бліжэйшых суседзяў.**

На думку даследчыкаў, паражэнне паўстання 1794 года было непазбежным. Яго не падтрымлівалі шырокія народныя масы сялянства, да таго ж вельмі слабай была буржуазія, а шляхецка-буржуазны блок, які кіраваў паўстаннем, імкнуўся да таго, каб не дапусціць рэвалюцыйнага выступлення гарадскіх нізоў і сялянства.



*Паўстанцы на прывале.*

Акрамя гэтага, як пазней высветлілася, сабатаж і невыкананне распараджэнняў Касцюшкі, а частка і адкрытая здрада падрывалі сілы паўстання.

"Польшча заняпала, — пісаў Ф. Энгельс, — але яе супраціўленне выратавала французскую рэвалюцыю, а разам з французскай рэвалюцыяй пачаўся рух, супраць якога бяссільны і царызм".

*Святаслаў* **КАЖАДУБ.**
**Івацэвіцкі раён.**
**(Працяг будзе).**

# Зняважаная старасць

## Як праводзілі бабулю ў апошні шлях





На здымках: М. Ю. ГЕМБАР; яе хата і падворак.
Фота А. Ганчука (1998 г.).

**Чытаеш афіцыйныя паведамленні і радуешся: так здорава у нас наладжана сацыяльная абарона насельніцтва, асабліва адзінокіх састарэлых людзей.**

**У Івацэвіцкім раёне, напрыклад, 110 жанчын, сацыяльных работнікаў, дапамагаюць 578 старым. Летась 103 малазабяспечаным пенсіянерам з бюджэту раёна выдзелілі прыкладна па дзевяць тысяч рублёў.**

**Але ці ўсім старым людзям дапамагае наша родная ўлада, асабліва калі справа тычыцца сумнага моманту, калі кагосьці з тых нямоглых прыходзіцца праводзіць у апошні шлях?**

З вёскі Боркі ў рэдакцыю патэлефанавалі і расказалі пра гісторыю смерці і пахаванне адзінокай старой жанчыны Марыі Юльянаўны Гембар.

Аказваецца, наша газета ў красавіку 1998 года пісала пра гэтую жанчыну. Яна раней працавала настаўніцай, потым захварэла і не змагла прадоўжыць сваю работу па спецыяльнасці. Але па магчымасці працавала ў мясцовым калгасе. Жыла ў хаце са сваёй сястрой, а калі тая памерла, засталася сама. І хата, што стаіць на ўскрайку вёскі, недалёка ад калгаснай фермы, і падворак выглядалі вельмі непрываблна. Чытач можа ўпэўніцца ў гэтым, глянуўшы на здымкі. Тым не менш у паўразбураным хляве Гембар трымала карову, здабывала дзесьці кармы. Гэта быў адзіны выхад, каб выжыць, бо пенсія была зусім мізэрнай.

У адзін з нядаўніх студзеньскіх дзён суседзі былі здзіўлены тым, што ў хляве пастаянна рыкае карова. Спярша не звярталі ўвагі, але потым пацікавіліся. Дзверы ў хату знутры былі зачынены. Патэлефанавалі пляменніку ў вёску Падстарынь. У Борках яго называюць Сцяпанкам. Працаваў настаўнікам у Падстарынскай школе, ягоная жонка — таксама. Зараз абодва на пенсіі. Як высветлілася пазней, дзесьці ёсць сын у Гембар. Можа і не бедна жыве, але з маці не меў ніякай сувязі.

Сцяпанка прыехаў, узламалі дзверы і ўбачылі, што ягоная цётка ляжыць на падлозе мёртвай. Суседкі абмылі нябожчыцу, паклалі на ўслон. І тут пачалося самае дзіўнае. Сцяпанка папрасіў выйсці з хаты ўсіх суседзяў. Потым сам пачаў майстраваць труну. Збіў нейкую скрынку, і боркаўцы сталі смяяцца. Тады разламаў яе і звярнуўся за дапамогай да майстра-сталяра.

Вечарэла, калі везлі канём хаваць нябожчыцу. Калі спускалі ў магілу труну, Сцяпанка зняў з яе пакрывала.

— Пабойся, Бога! — сказаў хтосьці з прысутных. — Навошта цягнуць з магілы?

— Усё роўна згніе,— са злосцю адказаў Сцяпанка. — Якая вам справа?

Як сказалі боркаўцы, пляменнік нябожчыцы ўсё ж раскашэліўся ў той вечар і паставіў на стол дзве паўлітроўкі гарэлкі і нейкую закусь, каб пачаставаць тых, хто капаў магілу. Вось такія памінкі атрымаліся па роднай цётцы.

Што забраў сабе Сцяпанка з хаты, дзе жыла цётка, боркаўцы не ведаюць, але вось карову завёў у Падстарынь у свой хлеў.

Хаця Сцяпанка мала калі дапамагаў сваёй цётцы (а некаторыя боркаўцы кажуць, што і зусім тут яго не бачылі), але ж так-сяк пахаваў нябожчыцу.

Усё ж радня, і не вельмі далёкая.

А што ж калгас, сельсавет, сацыяльныя работнікі? А нічога. Пры жыцці на былую настаўніцу, пенсіянерку, хворую жанчыну ніхто не звяртаў увагу, а на нябожчыцу — тым больш. А цяпер ужо няма чалавека, як кажуць, няма і праблем. Аднак, думаецца, праблемы засталіся. Гэта ўжо не першы выпадак у раёне, калі старога чалавека няма каму па-людску правесці ў апошні шлях. Праўду казала адна з жыхарак Борак, што "аднаго нябожчыка хаваюць у нас з аркестрам, з шыкоўнымі памінкамі на сотні чалавек, а другога, як бы не чалавека, а жывёлу".

У Падстарынскім сельсавеце, куды я патэлефанаваў, мне адказала сакратар выканкама Н. В. Жданові́ч:

— Мы даведаліся, што Гембар памёрла потым, калі яе пахавалі. Былі тады якраз выхадныя. Даведаліся, калі прыйшоў у сельсавет яе пляменнік С. К. Прыступчык. Чым маглі — дапамаглі. Выдзялілі на пахаванне дзесяць мінімальных зарплат, гэта значыць 36 тысяч рублёў. Атрымаў іх Прыступчык. Што ж тычыцца калгаса і яго дапамогі, то яму самому трэба неадкладна дапамагаць...

Пра сацыяльных работнікаў не хочацца і ўспамінаць, бо яшчэ два гады таму, калі мы наведвалі Гембар, яна сама скардзілася, што ніхто ёй не дапамагае, жыве сама, як можа.

Той-сёй з чытачоў, знаёмячыся з напісаным, можа абурыцца, маўляў, навошта пра такое пісаць, гэта не тыпова для нашага сённяшняга жыцця. Можа, у агульным плане і не. Калі ж гаварыць пра цяперашнюю рэальнасць, калі адзінокія старыя, забытыя Богам і людзьмі, падаюць, як мухі, і няма каму іх пахаваць палюдску, то, я лічу, што пра гэта ёсць сэнс пісаць і напамінаць усім, хто знаходзіцца пры ўладзе і не пры ўладзе, што перш за ўсё мы павінны заставацца людзьмі пры любых умовах і цяжкасцях.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. Івацэвічы.**

# Дзяцей, канешне, слухаць можна,

## але рабіць трэба па-свойму

**Такая думка гучала ў расказе адной ужо немаладой жанчыны, якая назвала сябе Аленай Іванаўнай і з якой днямі давялося ехаць электрычкай з Івацэвіч да станцыі "Бяроза-горад".**

**Магчыма, гэтая гісторыя камусьці падасца банальнай, між тым, на погляд аўтара гэтых радкоў, у ёй, як у маленькай кроплі вады, адлюстроўваецца той канкрэтны (і ў нейкай ступені цынічны) намёк на праўду, якая выражаецца ў выказванні аднаго мудрага чалавека: "Дзеці — будучыя ворагі сваіх бацькоў".**

— Нарадзілася я перад самой вайной у адной з вёсак Бярозаўшчыны. Калі ў 41-м бацьку, маладога хлопца, забралі на фронт, мне было толькі год, а маці ўжо была цяжарная другім дзіцём. Хоць яна сама яшчэ была "неабстрэляным" дзяўчом — было ёй толькі 20 гадоў. Бацька загінуў, і з дзвюма дочкамі маці, дваццацігадовая, паўтаруся, жанчына, засталася ўдавой. Як аказалася пасля — назаўжды.

Сёння мне ўжо амаль 60 гадоў, на паўтары гады маладзей за мяне сястра Надзя, маці памерла. Ей вельмі балелі перад смерцю рукі, я так разумею таму, што вельмі многа прыйшлося ей гэтымі рукамі працаваць, рабіць, каб паставіць нас з сястрой на ногі.

Пасляваенныя гады былі страшнымі гадамі. Галоднымі і халоднымі, не ведаю, як мы і выжылі. Памятаю: маці зімой возьме санкі, пасадзіць нас з сястрычкай на іх (не было нас на каго пакінуць) і цягне ў лес дровы шукаць, рэзаць. Нагрузіўшы тое, што магла знайсці ў гэтым заснежаным лесе, яна цягнула санкі дамоў, пасадзіўшы нас з сястрычкай на самы верх. Сёння мае вочы напаўняюцца слязьмі — як жа цяжка было ей, тоненькай, худзенькай, нібы дубец, выконваць гэтую нежаночую работу.

Але да крыўды на лёс, які так пакрыўдзіў маці, прымешваецца вялікая крыўда... на нас саміх з сястрой. І справа вось у чым.

Адразу пасля вайны да маці пачаў заляцацца, спрабаваў пасватацца мясцовы мужчына, які працаваў у толькі што створаным калгасе механізатарам. Хацеў жаніцца. Не ведаў ён, гэты мужчына, у каго трэба было, насамрэч, прасіць дазволу, каб жаніцца. Бо мы з сястрой паднялі такі вэрхал, бо былі супраць, так ганьбілі, праклiналі гэтага мужчыну, плакалі, ледзь на галасілі, як бычам ён хацеў не жаніцца на маці, а забіць яе. Зразумела, што тое сватаўство не адбылося. Мы свяцілiся з сястрой ад шчасця: мы ж перамаглі.

Праз пару год маці паназмілася з адным, калі не памыляюся, педагогам, які настаўнічаў дзесьці на Слонімшчыне, які прыязджаў у нашу вёску да сваёй сястры. Ён слаў нашай маці вельмі пяшчотныя лісты, называў яе любай, нас — дочкамі, яго жаданне быць з маці, жаніцца было больш чым відавочным.

Што тут пачалося! Мы перасталі размаўляць з маці, аб'явілі ей свой дзіцячы байкот, мы ірвалі тыя пісьмы, казалі, што пойдзем з дому, уцячэм, пойдзем утопімся, але жыць у адным доме з чужым мужчынам не будзем. Бо яна ж наша маці, а не таго мужчыны, які называў яе сваёй, хоць і любай. Гэта была лютая барацьба за сэрца маці, бо, як мне падаецца, яна, адзінокая, і, як казалі ў тым фільме, "неотлюбившая", мусіць, адчувала пяшчоту да таго настаўніка і пайшла б за яго замуж.

Ды мы зноў перамаглі з сястрой і вельмі радаваліся сваёй перамозе.

Але вось я і думаю: можа не гэтак перад смерцю балелі б рукі ў маёй маці, калі б у доме тады з'явіўся мужчына, які любіў маці, які мог бы разгрузіць яе жаночыя рукі ад цяжкай мужчынскай работы? Можа тады, цягаючы бярвенні, махаючы сякерай, і надарвала сваё здароўе маці — ей жа так балелі рукі пад старасць. Дома быў бы гаспадар, не было б страху адзіноты сэрцу мацярынскаму. Мне зараз амаль 60 гадоў, і я з нейкім недаўменнем думаю аб тым, што калісьці ў 20 гадоў яна з дзвюма дзецьмі засталася адна. Яна ж была яшчэ дзіцем нявопытным!

Дарэчы, калі нам самім споўнілася дваццаць гадоў і кожная з нас пачала збірацца замуж, то мы мала цікавіліся тым, хоча маці, каб у яе быў той або гэты зяць, ці не хоча, падабаецца зяць ці не падабаецца. Вось вам канкрэтны прыклад: дзеці намнога больш патрабавальныя і катэгарычныя, чым іх бацькі.

Вось я і думаю, каго мы перамаглі тады з сястрой? Мы маці сваю перамаглі. Таму і наварочваюцца слёзы сёння ў мяне, калі ўспамінаю аб тым сваім дзяцінстве.

Такія вось успаміны.

**Запісаў Аляксандр ГОРБАЧ.**
**г. Бяроза.**

# ☎ Калі больш за ўсё патрэбна гарачая вада?

**Халодная і гарачая вада ў доме — гэта выдатна. Але мяне турбуе вось што. У зімовы час гарачая вада, што цячэ з трубаў, на мой погляд, менш неабходная. Яе падачу можна і абмяжоўваць. А вось летам, асабліва вечарам, яе трэба падаваць пастаянна. Людзі працуюць то на сваіх участках, то прыходзяць з работы, дый наогул летам чалавеку прыходзіцца часцей мыцца з-за пылаты і рознага бруду. Мне думаецца, што нашы камунальнікі павінны** **ўлічыць гэтую акалічнасць. Хацелася б прачытаць у вашай газеце, што на конт гэтага думаюць адказныя работнікі камунальнай службы?**

**Вячаслаў ІВАНОЎ.**
**г. Івацэвічы.**

На пытанне, узнятае нашым чытачом, адказала начальнік абанементнай службы Івацэвіцкага раённага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Л. С. ПАКАЛЮК.**

— Пытанне забеспячэння нашых гараджан гарачай вадой даволі актуальнае, — зазначыла Людміла Станіславаўна. — Я і сама не супраць, каб гарачую ваду падавалі ў дамы і ў неацяпляльны перыяд. Але ж якраз тады ідзе рамонт і прафілактыка абсталявання кацельнай. Гэта, па-першае. Па-другое, у час, які застаецца, гарачая вада, калі і падаецца, то строга па графіку, згодна распараджэння райвыканкама. Мэта адна — эканомія. Калі ж будуць сродкі, то, вядома, і ў цёплы час сутак будзе гарачая вада ў дамах гараджан.

